«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№4(28) апрель 2012

# У ВІЦЕБСКУ ЎСПАМІНАЛІ ЛІКВІДАТАРАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АВАРЫІ

**На 26-я ўгодкі аварыі на Чарнобыльскай АЭС віцебская грамадзкасьць — ліквідатары аварыі і актывісты дэмакратычных партыя і рухаў, грамадскіх арганізацыяў — сабраліся каля Крыжа Эўфрасіньні Полацкай на Ўсьпенскай горцы.**



Пасьля кароткіх прамоваў і ўспамінаў удзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі ў Чарнобылі й Чарнобыльскай зоне прысутныя спусьціліся на бераг Дзьвіны і пусьцілі па вадзе жалобны «Вянок памяці». Гэта ўжо традыцыйная штогадовая жалобная акцыя да ўгодкаў чарнобыльскай трагеды, якая праводзіцца ў Віцебску.

Тутэйшыя міліцыянты лічць яе апазыцыйнай і пільна сочаць за ўдзельнікамі. Увечары 26 красавіка супрацоўнікі міліцыі і АМАПу дзяжурылі на берагах Дзьвіны і Віцьбы, а ў бліжэйшых дварах стаялі міліцэйскія машыны. Аднак сёлета абышлося без затрыманьняў, хаця некалькі дзён таму актывісты зьвярнуліся да гарадзкіх уладаў з адкрытым лістом пра тое, што жалобная акцыя адбудзецца ў любым выпадку.

Калі вянок схаваўся за даляглядам, частка людзей вярнулася да крыжа на Ўсьпенскай горцы на супольную малітву памяці ахвяраў і пацярпедых ад Чарнобыльскай трагеды. «Гэта была сапраўдная чарнобыльская малітва. Мы маліліся за супакой душаў тых, хто загінуў праз гэтую жудасную аварыю, і маліліся за доўгае жыцьцё тых, хто страціў здароўе пасьля катастрофы на АЭС. Напрыканцы ўсе прасьпявалі гімн „Магутны Божа"», — апавяла каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД **Тацьцяна Севярынец.**

*Радыё Свабода*

# ПІКЕТЫ РАЗАМ З УЛАДАМІ

**Сябра КХП-БНФ прапануе ўладам далучыцца да ягоных пікетаў**

Ян Дзяржаўцаў падаў 6 заявак на пікеты, каб правесьці тры акцыі 22 красавіка, і яшчэ тры — 26 красавіка. Заяўкі пададзеныя ў тры раённыя адміністрацыі Віцебску.

Мэта пікетаў 22 красавіка — інфармацыйная. Актывіст хоча данесьці да жыхароў Віцебску зьвесткі пра палітыку, накіраваную на зьнішчэньне мовы, культуры і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў.

Пікеты, замоўленыя на 26 красавіка, прысьвячаюцца ўгодкам Чарнобыльскай трагеды. Ян Дзяржаўцаў мяркуе зьвярнуць увагу землякоў на небясьпеку будаўніцтва АЭС у Беларусі.

Падаючы заяўкі на пікеты, спадар Дзяржаўцаў прапанаваў старшыням раённых адміністрацый далучыцца да арганізацыі гэтых акцый. У такім выпадку ёсьць шанец, што іх дазволяць: калі раённыя ўлады адгукнуцца на прапанову актывіста, то яму ня трэба будзе прадастаўляць дамовы на мэдычнае абслугоўваньне, ахову правапарадку і прыборку пасьля пікету.

Бо, забараняючы масавыя мерапрыемствы, чыноўнікі звычайна спасылаюцца на рашэньне Віцебскага аблвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году. Паводле яго, калі арганізацыя масавага мерапрыемства адбываецца без удзелу органаў дзяржаўнай улады, арганізатары павінны заключыць дамовы з мэдыкамі, міліцыянтамі і камунальнікамі на абслугоўваньне імпрэзаў. Ужо амаль два гады, як ніводная заяўка віцебскіх актывістаў на пікеты на пікеты не была задаволеная, бо адпаведныя службы адмаўляюцца заключаць дамовы па розных прычынах.

Мінулыя спробы Яна Дзяржаўцава таксама былі беспасьпяховымі. З 23 сакавіка па 9 красавіка адбылося пяць пасяджаньняў раённых судоў, калі актывіст спрабаваў прыцягнуць чыноўнікаў да адказнасьці за забарону 15-ці пікетаў у падтрымку свайго аднапартыйца Сяргея Каваленкі. Аднак і ў Першамайскім, і ў Кастрычніцкім, і ў Чыгуначным райсудах рашэньні ўладаў былі прызнаныя законнымі, і скаргі актывіста пакінулі без задавальненьня.

*Радыё Свабода, 13.04.2012*

# СУСТРЭЧА "НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАНТЭОН ГЕРОЯЎ"

**У Віцебску прайшла чарговая сустрэча па тэме "Нацыянальны Пантэон герояў: падмурак гуманітарнай бяспекі краіны", удзел у якой бралі сацыял-дэмакраты з Оршы, Віцебску, Полацку, Наваполацку, Верхнядзвінску, якія, дарэчы, былі і ініцыятарамі гэтай сустрэчы.**

Акрамя таго, удзельнікамі размовы аб ролі выбітных асобаў Беларусі ў вызваленні ад савецкіх міфаў і стэрэатыпаў, аб канструяванні новай ідэнтычнасці, аб тым, хто з гістарычных постацяў краіны забыты, а хто незаслужана ухвалены, сталі сябры недзяржаўных грамадскіх арганізацый вобласці. За круглым сталом, з удзелам гісторыкаў П. Краўчанкі і У. Ляхоўскага, ішла жывая і зацікаўленая дыскусія аб праекце, які распачалі гісторыкі Беларусі, а публічную дыскусію адкрыў на старонках "Народнай волі" прафесар З Шыбека.

Каментар кіраўніка Віцебскай абласной арганізацыі БСДП **Валянціны Болбат:**

– Гэтай тэматыцы сацыял-дэмакраты Віцебшчыны прысвяцілі ўжо не адну сустрэчу: на працягу апошніх двух год мы актыўна працуем над ёй. Такія сустрэчы, з удзелам вядомых навукоўцаў С.Тарасава, Н.Стужынскай, П.Краўчанкі, У.Ляхоўскага, А.Кіштымава, неаднаразова ладзіліся ў Полацку, Верхнядзвінску, Оршы, Віцебску. У гэты раз мы не абыйшлі ўвагай гісторыю старэйшай на Беларусі палітычнай партыі — сацыял-дэмакратычнай і яе ўтваральнікаў, бо Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада стала калыскай партый і рухаў нашай краіны. Лічым, што гэты праект павінен стаць грамадскай кампаніяй.

Бо як зазначыла Н.Стужынская "Гісторыя, акрамя таго, што яе вымуць гісторыкі з архіваў, патрабуе ўвагі пісьменнікаў, драматургаў, іншых творчых людзей, каб не застацца ў забыцці на старонках акадэмічных выданняў. На жаль, мы мала ведаем сваіх герояў, хто па праву заслугоўвае нашай любові і ўдзячнай памяці".

У рамках гэтага праекту можна весці гаворку пра рэгіянальную дзейнасць грамадскіх арганізацый і партыйных структур у справе развіцця і папулярызацыі Нацыянальнага Пантэону.

*http://bsdp.org/?q=be/node/11242*

# СУДЗЯЦЦА З СУДАМІ

**Віцебскія дэмакратычныя актывісты працягваюць судзіцца з мясцовым «вертыкальшчыкам» з прычыны забароны акцыі на Дзень Волі. Прычым у прыклад яму ставяць мінскія ўлады, якія прынялі па аналагічнай сітуацыі супрацьлеглае, станоўчае, рашэнне.**

Віцебскі рэгіянальны лідар Руху "За Свабоду" **Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў**, які быў даверанай асобай Мікалая Статкевіча на прэзідэнцкіх выбарах-2010, а таксама сябра КХП-БНФ **Ян Дзяржаўцаў** падалі касацыйную скаргу на рашэнне суда Кастрычніцкага раёна Віцебска. Яна накіраваная ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Віцебскага абласнога суда.

Абскарджваецца рашэнне суда Кастрычніцкага раёна горада аб адхіленні скаргі гэтых жа самых трох апазіцыянераў на тое, што намеснік старшыні Віцебскага гарадскога выканаўчага камітэта **Ўладзімір Шлома** забараніў правядзенне масавага мерапрыемства 25 сакавіка.

Віцебскія дэмакратычныя актывісты лічаць, што адмоўныя рашэнні і гарвыканкама, і затым суда былі вынесеныя неабгрунтавана – з-за супярэчлівых трактовак імі Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» і рашэння Віцебскага гарадскога выканаўчага камітэта «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску» датычна месцаў правядзення акцый.

Прычым падпісанты адзначаюць у скарзе, што аналагічная сітуацыя была ўрэгулявана ў Мінску з процілеглым вынікам: «Чыноўнікі з Мінгарвыканкама таксама разумеюць і тлумачаць нормы Закона, як і мы – заяўнікі скаргі, а вось чыноўнікі з Віцебскага гарвыканкама, мабыць, своечасова не прайшлі павышэнне кваліфікацыі і не маюць дастатковых ведаў у гэтым пытанні, аднак суд першай інстанцыі пагадзіўся з іх довадамі пры разглядзе справы».

# У ГАРАДКУ ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ

**У Гарадку забаранілі пікет з нагоды 26-й гадавіны Чарнобыльскай трагедыі.**

Актывіст кампаніі «Гавары праўду» і партыі БНФ з Гарадка **Леанід Аўтухоў** атрымаў адказ з райвыканкаму за подпісам намесьніка старшыні Буруновай Н. А. «Зварот быў накіраваны, каб атрымаць дазвол на правядзеньне пікетаваньня з нагоды 26-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, — паведаміў актывіст. — У звароце я прасіў, каб, калі будзе прымацца рашэньне, запрасілі на абмеркаваньне і мяне. Але чыноўнікі ўсё вырашылі самі, адказалі: "Не". І як пасьля гэтага грамадзяне могуць ставіцца да кіруючай ўлады?! Толькі як да чужынцаў, акупантаў, якія захапілі, я лічу, уладу і здзекуюцца зь людзей».

«Чарнобыль закрануў бадай што ўсё насельніцтва Беларусі, — мяркуе Леанід Аўтухоў. — У тым ліку і чыноўнікаў, і міліцыянтаў, і супрацоўнікаў КДБ, і набліжаных да цела кіраўніка. Усе мы ўжываем атручаныя прадукты з забруджаных зямель Гомельшчыны, дыхаем атручаным паветрам. Таму тэма пабудовы беларускай АЭС у Астраўцы ня вельмі папулярная ў грамадзтве. Тым больш, што гэтае рашэньне, як звычайна ў нашай краіне, не абмяркоўвалася зь людзьмі, а было прынятае "кулуарна", без уліку меркаваньня грамадзян.

Гэтым пікетам мы хацелі сказаць "Не - новаму Чарнобылю", а таксама ўшанаваць сьветлую памяць загінулых і ўсіх тых, хто паклаў сваё здароўе на ліквідацыі наступстваў "мірнага атаму", але гарадоцкае чынавенства адказала "Не" людзям!»

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ЖЫХАРЫ ВІЦЕБСКУ ПРОСЯЦЬ ЗА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ

**Калектыўная заява з прозьбай вызваліць сябра КХП БНФ з-пад варты і перавесьці ў цывільны шпіталь накіравана старшыні Віцебскага абласнога суду.**

«Заяву падпісвалі на чарговым пасяджэньні аргкамітэту падтрымкі Сяргея Каваленкі. Мы вырашылі, што гэта будзе ліст ад прыватных асобаў — віцебскія актывісты не ўказвалі сваю партыйную прыналежнасьць або сфэру грамадзкай дзейнасьці. Бо гаворка вядзецца пра выратаваньне жыцьця Сяргея — гэта наш агульначалавечы клопат. І старшыню абласнога суду мы таксама заклікаем да праяваў спачуваньня і чалавечнасьці. Допіс на імя Мікалая Хамічонка я асабіста занесла ў абласны суд і яго зарэгістравалі пад нумарам 3760», — завіла грамадзкая актывістка Тацяна Севярынец — адна з тых, хто падпісаўся пад заявай.

У заяве на імя старшыні Віцебскага абласнога суду напісана: «Мы, грамадзяне Віцебску, вельмі занепакоеныя станам здароўя Сяргея Каваленкі, які галадуе больш за тры месяцы. Зараз ён знаходзіцца ў псыхіятрычным адзьдзяленьні папраўчай калёніі № 3. Дзеяньні мэдычнага пэрсаналу не прыводзяць да паляпшэньня яго стану і могуць выклікаць сьмерць. Зьмена рэжыму ўтрыманьня і перавод Сяргея Каваленкі ў грамадзянскі шпіталь могуць уратаваць ягонае здароўе і жыцьцё».




Актывіст КХП БНФ Сяргей Каваленка асуджаны на 2 гады і месяц за парушэньне адбыцьця «хіміі» за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцяга на навагодняй ёлцы ў Віцебску. Зь сярэдзіны сьнежня зь перапынкам на 20 дзён Сяргей Каваленка трымае галадоўку супроць прысуду.

26 сакавіка Сяргея Каваленку перавялі з рэспубліканскага турэмнага шпіталя на «Валадарцы» ў псыхіятрычны шпіталь пры калёніі «Віцьба-3».

*http://www.svaboda.org/content/article/24535722.html*

# ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСІ

**Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі і Анатоль Грыцкевіч — за скліканне Усебеларускага з’езду.**

Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню.

Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-занепрадбачлівай і непаслядоўнай замежнай палітыкі наша краіна нястрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Настойлівымі высілкамі чынавенства груба і няўхільна дыскрымінуецца нацыянальная культура, выціскаецца са штодзённага ўжытку беларуская мова — падсякаюцца карані нацыі.

Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы.

Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць.

Надышоў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў, цвяроза і цвёрда паставіць задачы далейшага станаўлення і сцвярджэння нацыянальнай дзяржавы.

Гісторыя ніколі і нікому не дарує бяздзейнасці на складаных, вызначальных яе паваротах. Усе здаровыя сілы нашага грамадства мусяць адкінуць асабістыя і карпаратыўныя амбіцыі дзеля святой і галоўнай мэты — свабоды і шчасця народа.

У газеце «Народная Воля» за 2 сакавіка **Уладзімір Някляеў** выказаў прапановуаб скліканні Усебеларускага з’езду. Мы падтрымліваем гэтую прапанову — і ўсіх, хто занепакоены лёсам Бацькаўшчыны, заклікаем да яднання!

Давайце схамянёмся. Давайце адумаемся. Давайце згуртуемся. Давайце ўсвядомім нарэшце свой абавязак перад нашчадкамі, перад чалавецтвам, перад гісторыяй, перад Беларуссю.

Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы пераможам, калі будзем разам.

Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, сустаршыні Усебеларускага з’езду за незалежнасць 2000 г.

3 красавіка 2012

*http://nn.by/?c=ar&i=71278*

## ІНФАРМАЦЫЯ

У Віцебску працуе Еўрапейскі Інфармацыйны цэнтр. Жыхары горада могуць атрымаць неабходную інфармацыю пра Еўразьвяз і дзейнасьць інстытутаў ЕЗ кожныя чацьвер з 15.00 да 19.00, суботу з 12.00 да 18.00, нядзелю з 11.00 да 17.00. Запрашаем на вул.1-ю Сенненскую, д.5. Кантактны тэл. 27-23-39

# ПАМЁР ВІТАЛЬ ГАРАНОВІЧ

**На 61-м годзе жыцьця памёр Віталь Гарановіч — былы настаўнік і дырэктар глыбоцкай сярэдняй школы № 3, якая ягонымі намаганьнямі стала беларускамоўнай і трымалася ў гэтым статусе да апошняга, пакуль спадар Гарановіч не пакінуў сваю пасаду. Ня стала вядомага на Глыбоччыне паэта, які прынцыпова заставаўся сябрам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.**

Як прынцыповага прыхільніка беларускамоўнай адукацыі ведаюць і памятаюць Віталя Гарановіча ў Глыбокім. У сярэдняй школе № 3 вучняў выхоўвалі беларусамі і патрыётамі.

Віталь Рыгоравіч шчыра ганарыўся многімі сваімі выхаванцамі, кажа мясцовы краязнаўца, выдавец газэты «Вольнае Глыбокае» **Ўладзімер Скрабатун:**

«Уся школа была цалкам беларускамоўная. І ён сапраўды ганарыўся, што многія вучні былі, умоўна кажучы, «на барыкадах» — у Менску ў 2006-м годзе на плошчы, і «суткі» сядзелі... Ён так і казаў: «О! Гэта мае выхаванцы».

Былы вучань глыбоцкай сярэдняй школы № 3 **Андрусь Храпавіцкі** — заснавальнік рэгіянальнага незалежнага сайту westki.info:

«Віталь Рыгоравіч — гэта цэлая эпоха. Гэта чалавек, на якім трымалася школа, сапраўды беларуская школа, дзе быў беларускі дух. Днямі каля школы сьпілавалі вялікія таполі, якія расьлі там шмат гадоў і якія памятае не адно пакаленьне выпускнікоў. Гэта нібы сымбаль таго, што школа стала ўжо не такая, як раней... А яшчэ Віталь Рыгоравіч — ня толькі выдатны пэдагог, а яшчэ й беларускі паэт, патрыёт нашага гораду і ўсёй Беларусі. Проста не магу даць веры, што яго больш ужо няма сярод нас!»

Калі Віталь Гарановіч пакінуў дырэктарскую пасаду, школа № 3 паступова ператварылася ў звычайную расейскамоўную. Ён казаў, што сышоў з пэдагогікі паводле ўласнага жаданьня, але шмат хто ў Глыбокім мяркуе, што гэта было зроблена пад ціскам. Апошнія гады ён працаваў у раённым прафсаюзе работнікаў адукацыі, фактычна застаючыся на дзяржаўнай пасадзе. Але пры гэтым прынцыпова заставаўся сябрам «неафіцыйнага» Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, згадвае **Франц Сіўко**, які доўгі час кіраваў віцебскай філіяй пісьменьніцкай арганізацыі:

«Ён быў чалавекам слова, цьвёрдых перакананьняў і такой добрай беларускасьці! Калі я працаваў у Тэхналягічным унівэрсытэце, я вельмі шмат сутыкаўся зь яго колішнімі вучнямі і чуў ад іх вельмі й вельмі прыязныя водгукі».

Паэтка **Марыя Баравік** з Падсьвільля згадала, што з усіх літаратараў рэгіёну толькі яны ўдвох заставаліся ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў:

«Ён заставаўся са мной у старым саюзе, не пайшоў туды. Я ягоныя вершы добра ведаю. Ён такі паэт-апісальнік, пра прыроду хараша пісаў, раскошныя вершы такія, добрыя вершы ў яго».

Марыя Баравік рэдагавала адну з чатырох кніжак Віталя Гарановіча, «Саракі». Яшчэ былі «Беразьвечча», «Сьвятло блакіту» і апошняя — «Нараджэньне вады».

Вершы Віталь Гарановіч пачаў пісаць яшчэ ў юнацтве, калі вучыўся ў Хоўхлаўскай сярэдняй школе, згадвае ягоная школьная сяброўка **Настасься Наркевіч:**

«Я таксама пісала вершы, і мы зь ім уваходзілі ў літаратурнае аб'яднаньне пры маладэчанскай газэце „Сьвятло камунізму". І я заўсёды любіла яго вершы. Ён шчыра пісаў! Добры быў чалавек, адказны, сьціплы, надзейны — чалавек, зь якім было вельмі ўтульна і цёпла! Шкада, вельмі шкада...»

Сёлета 7 студзеня Віталю Гарановічу споўнілася 60 гадоў. У інтэрвію раённай газэце «Весьнік Глыбоччыны» ён казаў, што паэзія заўжды жыве ў ягонай душы. І як часьцінка душы паэта землякам застануцца яго вершы і песьні — «Глыбоцкі вальс», «Глыбоцкае танга», «Азёры Глыбоччыны», «Беразьвечча».

*Радыё Свабода 17.04.2012*

# ДЗЕНЬ ВОЛІ АДЗНАЧЫЛІ Ў ВІЦЕБСКУ

**Каля дваццаці чалавек з розных палітычных партыяў і рухаў удзельнічалі ў Віцебску ў сьвяткаваньні 94-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Прысутныя ўсклалі кветкі да мэмарыяльнай дошкі на будынку мастацкай школы №1, якая прысвечаная **Васілю Быкаву**, і да помніку **Ўладзімеру Караткевічу.** Былі запаленыя белыя і чырвоныя зьнічы. У кароткіх прамовах гучалі патрабаваньні неадкладна вызваліць віцябляніна Сяргея Каваленку і іншых палітвязьняў, якія пакутуюць за Беларусь.

За тымі, хто сабраўся, увесь час назіралі людзі ў цывільным, колькасьць якіх перавышала колькасьць удзельнікаў сьвяточнай імпрэзы. Бяз формы быў і намесьнік начальніка аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму **Андрэй Іваноў.** Апэратары спэцслужбаў здымалі ўсё, што адбываецца, на відэа. Каля помніка Уладзімеру Караткевічу быў разгарнуты на непрацяглы час нацыянальны сьцяг, але пад пагрозай затрымання **Уладзіслаў Токараў** яго схаваў.